ГРОДНА
№11 (586),
29 мая 2022

# СЛОВА ЖЫЦЦЯ

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



## Паддацца дзеянню Святога Духа




*Урачыстасць Спаслання Святога Духа – дзень нараджэння Касцёла, святой супольнасці, дзе мы ўсе "народжаныя" для вечнага жыцця.*

*на старонцы* 2

## Юбілей святыні і ўнясенне рэліквій у касцёл у Казловічах




*У адпустовую ўрачыстасць з нагоды літургічнага ўспаміну св. Андрэя Баболі ў мясцовы касцёл прыбылі рэліквіі святога.*

*на старонцы* 4

## Апостал беларускай мовы



*Узгадваем кс. Міхала Шалкевіча ў сотую гадавіну прызначэння яго пробашчам у Тракелях.*

*на старонцы* 6

# ПРА ПЛЁННУЮ ПАДРЫХТОЎКУ ДА СВЯТАРСТВА І ПАКЛІКАННІ




*Кс. Павел Эйсмант (справа) і алюмны перадсемінарыйнага курса з візітам на Радыё Марыя*

**У маі Касцёл перажываў сусветны тыдзень малітвы аб паклікапннях да святарскага, манаскага і місіянерскага жыцця. Заскокваючы ў апошні вагон вясенняга месяца, мы паразмаўлялі з кс. Паўлам Эйсмантам, які цяпер служыць у Мінску і займаецца фармацыяй хлопцаў на падрыхтоўчым, перадсемінарыйным курсе. Там падчас гадавога навучання юнакі распазнаюць, ці святарства – гэта іх шлях.**

**Мы распыталі кс. Паўла аб новай для Беларусі практыцы і закранулі праблематыку колькасці пакліканняў.**

*на старонцы* 3

## "ІНВЕСТЫЦЫЯ Ў ЧАЛАВЕКА АПЛАЧВАЕЦЦА", – З АЙЦОМ ЦВЯЧКОЎСКІМ ПРА ПОСПЕХ КАНІКУЛ З БОГАМ





*Канікулы з Богам у Жодзіне. Фота з архіва парафіі*

**За 30 гадоў існавання ініцыятывы праз парафіяльныя летнікі прайшлі дзесяткі, калі не сотні тысяч дзяцей. Штогод мноства школьнікаў малодшага ўзросту прымае ўдзел у гэтых мерапрыемствах па ўсёй Беларусі. Нягледзячы на доўгую гісторыю, акцыя не губляе сваёй рэлевантнасці. Аб прычынах папулярнасці праекта размаўляем з марыянінам з Жодзіна і былым дырэктарам Пастаральнага цэнтра пры Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў Беларусі.**

*на старонцы* 5

СЛОВА РЭДАКТАРА

## Дарагія Чытачы!



*Завяршаецца чарговы навучальны і катэхетычны год. Многія маладыя людзі, узбагачаныя сямікратным дарам Святога Духа ў сакраманце хрысціянскай сталасці, стануць перад выбарам жыццёвага шляху.*

*Знайсці ўласнае месца ў свеце – складаная справа, якая патрабуе шмат высілкаў. Яна ўключае здольнасць прымаць рашэнні і ў канчатковым рахунку цягне за сабой адказнасць ды ўменне трываць у выбары. Часам яна датычыць усяго будучага жыцця. Чалавек можа быць шчаслівым толькі тады, калі стане тым, кім павінен быць. Іншымі словамі – калі ён будзе на тым месцы, для якога Бог яго прызначыў і мудра надзяліў.*

*Вельмі важна ў гэты час спадарожнічаць маладым людзям, падтрымліваць іх малітвай і дапамагчы ўсвядоміць, што сутнасць кожнага пакліканні – верна ў ім трываць. Незалежна ад таго, будзе гэта пакліканне да сямейнага жыцця, святарства, манаства або іншае пакліканне, якому нехта прысвяціў сваё непаўторнае жыццё. Толькі вернасць вядзе да поспеху, пачуцця асалоды і ўнутранай задаволенасці.*

*ks. Jerzy Martinowicz*

КАЛЯНДАР

**31 мая**
***Свята Адведзінаў Найсвяцейшай Панны Марыі.***
*У гэты дзень мы ўспамінаем, перш за ўсё, сустрэчу Месіі з Яго папярэднікам – Янам Хрысціцелем. Гэта таксама сустрэча дзвюх маці. Апісанне адведзінаў пакінуў нам св. Лука (Лк 1, 39–56). Гэта адбылося ў Айн-Карым, прыкладна ў 7 км ад Іерусаліма. Адведзіны св. Альжбеты – адна з самых радасных сцэн з жыцця Марыі.*

**1 чэрвеня**
***Успамін св. Юстына, мучаніка.***
*Юстын, хрысціянскі філосаф і апалагет, быў родам з Самарыі. Прыняў хрысціянства ў 130 годзе. Яго далейшае жыццё складалася з навучання і абароны хрысціянскай веры ў Рыме. У "Дыялогу з габрэем Трыфанам" ён выказаў, што Хрыстос з'яўляецца сапраўдным Месіем, таму што ў Ім споўніліся старазапаветныя прароцтвы. Загінуў мучаніцкай смерцю ў Рыме ў 165 годзе.*

**6 чэрвеня**
***Свята Найсвяцейшай Панны Марыі Маці Касцёла.***
*Свята Марыі Маці Касцёла адзначаецца ў панядзелак пасля ўрачыстасці Спаслання Святога Духа, што была пачаткам дзейнасці Касцёла. У момант Спаслання Святога Духа ў Вячэрніку прысутнічалі ўсе апосталы, якія "аднадушна трывалі ў малітве разам з жанчынамі і Марыяй, Маці Езуса, і з братамі Яго" (Дз 1, 14). Найсвяцейшая Маці, Абранніца Святога Духа, моцай якога ў дзень Зверавання Яна зачала Езуса Хрыста, перажыла ў Вячэрніку разам з Апосталамі сыходжанне Святога Духа на Касцёл.*

**8 чэрвеня**
***Успамін св. Ядзвігі, каралевы.***
*Ядзвіга нарадзілася ў 1374 годзе як дачка караля Венгрыі і Польшчы Людвіка. Яна атрымала ў спадчыну ад бацькі польскі трон і была каранавана ў 1384 годзе. Выйшла замуж за вялікага князя літоўскага Уладзіслава Ягайлу і спрыяла навяртанню краіны ў хрысціянства. На працягу ўсяго свайго жыцця была шчодрай да бедных. Памерла ў Кракаве 17 ліпеня 1399 года.*

**11 чэрвеня**
***Успамін св. Барнабы, апостала.***
*Барнаба паходзіў з Кіпра. Прыняўшы хрысціянства, ён завяшчаў усю сваю маёмасць апосталам. Ён першы ўвёў св. Паўла ў хрысціянскую супольнасць Іерусаліма і па выразным загадзе Святога Духа суправаджаў Апостала народаў у яго першае місіянерскае падарожжа па Малой Азіі. Загінуў мучаніцкай смерцю каля 60 года.*

# ПАДДАЦЦА ДЗЕЯННЮ СВЯТОГА ДУХА

працяг са с. 1

**Да шматлікіх старых звычак у апошнія гады дадалася новая – пастаяннае пераскокванне па тэлеканалах, інтэрнэт-старонках і розных паведамленнях у тэлефоне. Чалавеку ўсё цяжэй засяродзіць увагу на цэлым фільме ці праграме, усё цяжэй прачытаць поўнасцю кнігу ці нават большы артыкул, асабліва калі гэта патрабуе роздуму. Таксама ўсё цяжэй выслухаць кагосьці да канца і прыняць цвёрдае, канчатковае жыццёвае рашэнне. Лепш не думаць і пачакаць.**

*Кс. Юрый Марціновіч*




Спасланне Святога Духа з'яўляецца дапаўненнем перамогі Езуса над смерцю і грахом. Мы таксама кажам, што гэта вывядзенне апосталаў з утульнага, але невялікага Вячэрніка, каб прапаведаваць Евангелле. Урачыстасць Спаслання Святога Духа, якую мы штогод святкуем праз пяцьдзесят дзён пасля Вялікадня, з'яўляецца таксама днём прыняцці хрысціянства – таго, што прасцей і што ў дадзены момант здаецца нам найбольш патрэбным. Ад вялікіх заяў ісці за Езусам мы вельмі хутка пераходзім да адпушчэння сабе выбраных самімі намі грахоў, а ад цвёрдых пастаноў – да паддавання спакусам, таму што менавіта гэтая адна абраная спакуса не мае права падвяргацца гаючай сіле Уваскрослага.

**Святы Праваслаўнай Царквы Серафім Сароўскі казаў, што галоўная мэта хрысціянскага жыцця – атрымаць Святога Духа.**

нараджэння Касцёла – святой супольнасці, дзе мы ўсе "народжаныя" для вечнага жыцця: мы былі мёртвыя, але дзякуючы моцы Бога, Святога Духа, сапраўды жывём.

У спешцы лёгка выпусціць гэта з-пад увагі, засяродзіцца на фрагментарным Мы духоўна пераскокваем з канала на канал, ні на чым не засяроджваючыся. Не прымаем канчатковых рашэнняў, бо, можа, нешта яшчэ зменіцца, у нас ці ў іншых адчыніцца нейкія іншыя дзверы. Мы чакаем.

Святы Дух выводзіць апосталаў з Вячэрніка, каб яны абвяшчалі Евангелле, каб сталі вучнямі-місіянерамі. Святы Дух прыходзіць для таго, каб надаць ім пачуццё веры, дапамагчы ў распазнанні таго, што павінна быць мэтай іх жыцця. Таму ў кожнай сітуацыі – незалежна ад стану жыцця, незалежна ад здароўя і хвароб, незалежна ад недахопаў, заган і грахоў, якія зноў і зноў паўтараюцца, – яны павінны быць вучнямі-місіянерамі Добрай Навіны.

І такім чынам з нашага жыцця, поўнага сумненняў і расчараванняў, Бог робіць матэрыял, гліну для новага апостала, вучня-місіянера. На практыцы многа не трэба, дастаткова паддацца дзеянню Святога Духа. Трэба пагадзіцца на такое пакліканне, прыняць канкрэтнае рашэнне сведчыць пра Яго, перастаць духоўна пераскокваць па навінах, каб не ўспрыняць іх сур'ёзна. Дух Праўды прыводзіць да ўсёй праўды, а не толькі да нейкай частковай. Таму неабходна ўсвядоміць, што я любімы Творцам, маё жыццё мае сэнс і можа прынесці шмат плёну.

Пара перастаць думаць

**Урачыстасць Спаслання Святога Духа сёлета адзначаем 5 чэрвеня.**

пра Святога Духа як пра нейкага казачнага персанажа, які падказвае на экзамене, які адказ выбраць, або як пра голуба, які недзе высока вісіць над алтаром. Гэта Бог, які сам прыносіць нам Добрую Навіну аб смерці і ўваскрасенні Хрыста, хоча, каб яны сталі найважнейшымі падзеямі ў нашым жыцці, надалі яму адзінства і згоду, а таксама падштурхнулі дапамагаць блізкім у падобным жыццёвым выбары. Бог не чакае і вырывае з чакання нас.

# ПРА ПЛЁННУЮ ПАДРЫХТОЎКУ ДА СВЯТАРСТВА І ПАКЛІКАННІ

працяг са с. 1

Кацярына Паўлоўская



Кс. Павел Эйсмант з'яўляецца куратарам падрыхтоўчага, інакш – прапедэўтычнага, курса, на які прыязджаюць хлопцы з чатырох дыяцэзій Беларусі і навучаюцца асобна, па-за будынкам семінарыі. На дадзены момант на курсе знаходзіцца 5 чалавек: чатыры з Гродзенскай дыяцэзіі і адзін з Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі.

### ЧАМУ АСОБНЫ КУРС?

Першы навучальны год стартаваў восенню 2018 года, і на ім было дзесяць асоб. Рашэнне стварыць такую форму навучання прынялі двума гадамі раней. Яна стала адказам на рэкамендацыі Апостальскай Сталіцы ў кантэксце менавіта недахопу пакліканняў.

Як дзеліцца кс. Павел, распавядаючы аб патрэбе дадзенага курса, ***"усё дзеля таго, каб юнакі, праходзячы яго, як мага паўней распазналі сваё пакліканне. Гэта нялёгкая задача, ёсць шмат цяжкасцей, і чалавек не ведае да канца, ці насамрэч ён пакліканы быць святаром. Тут робіцца першы крок. І калі хлопец вырашае, што гэта ўсё-такі не яго, ён пасля можа выбраць іншую прафесію, а калі яго, то пойдзе вучыцца і фарміравацца ў семінарыю"***.

### АБ ПРАГРАМЕ НАВУЧАННЯ

Наш суразмоўца адказвае за выхаваўчую і дыдактычную галіны. Як адзначае кс. Павел, у выхаваўчым плане яго задача, перш за ўсё, заключаецца ў тым, каб штосьці падказаць, накіраваць, нагадаць, часам зрабіць заўвагу. ***"Пасля семінарыя пераймае, і там выхаваўцам працы, бо хлопцы ўжо ў пэўнай ступені сфарміраваныя"***, – адзначае святар.

У кантэксце навучання кс. Павел складае план заняткаў, факультатываў і майстар-класаў, таксама арганізоўвае для ўдзельнікаў курса сустрэчы з цікавымі людзьмі, між іншым, у галіне культуры і мастацтва; ладзіць культурныя мерапрыемствы: выхады ў кіно, на арганныя канцэрты, прагляд спектакля ці выставы жывапісу; розныя выезды, знаёмствы з іншымі парафіямі.

***"У нашай супольнасці служыць таксама духоўны айцец. Ён спавядае, як і два іншыя спаведнікі, праводзіць духоўныя размовы, да яго навучэнцы звяртаюцца перадусім з духоўнымі праблемамі,*** – дзеліцца кс. Павел. – ***Ёсць прадмет, які праводзіць псіхолаг – «Антрапалогія хрысціянскага паклікання». Ён быў уведзены ў план навучання, каб хлопцы маглі пазнаць сябе, свой псіхалагічны свет і ў гэтым кантэксце адкрылі ўласнае пакліканне, адкрылі ў сабе прыгажосць чалавечнасці. Калі ўзнікае такая патрэба, у асобных выпадках мы таксама карыстаемся псіхалагічнай і нават псіхатэрапеўтычнай дапамогай"***.

Як тлумачыць кс. Павел, сярод прадметаў, вывучаемых удзельнікамі курса, ёсць асноўныя і дадатковыя прадметы, а таксама мовы. Да першых адносяцца, напрыклад, "Уводзіны ў духоўнае жыццё", "Уводзіны ў хрысціянства", "Уводзіны ў гісторыю Касцёла ў Беларусі" (у тым ліку ў кантэксце сусветнай гісторыі), куды ўваходзіць таксама знаёмства з біяграфіямі святых нашай краіны, пазнанне каталіцкай, праваслаўнай і уніяцкай канфесій. Сярод дадатковых прадметаў ёсць, між іншым, "Практычная літургіка" і "Падрыхтоўка да этапу філасофіі". Да моў жа адносяцца беларуская мова і культура, англійская і польская мовы (асноўная частка літаратуры ўсё яшчэ застаецца па-польску).

### ТРОХІ АБ МІЖПАКАЛЕННЧЫХ АДРОЗНЕННЯХ

Сам кс. Павел паступаў у семінарыю ў Гродне ў 2006 годзе, калі яна яшчэ была дыяцэзіяльнай. На пытанне, якія адрозненні заўважае паміж колішнімі семінарыстамі і цяперашнімі кандыдатамі, святар звяртае ўвагу на тое, што актуальна больш хлопцаў прыходзіць пасля каледжа ці ўніверсітэта, набыўшы пэўны вопыт свецкай работы, і менш пасля школы.

Адной з асаблівасцей працы сёння з'яўляецца таксама паходжанне хлопцаў з няпоўных сямей: ***"Да нас прыходзіць пэўная колькасць юнакоў з праблемных сем'яў, дзе няма бацькі ці маці, як па прычыне смерці, так і па прычыне разводу"***. Кс. Павел заўважае, што такія асобы патрабуюць асаблівага падыходу, патрабуюць духоўнай і псіхалагічнай падтрымкі.

### АБ СКЛАДАНАСЦІ АДКАЗУ НА ПАКЛІКАННЕ

Разважаючы над праблематыкай пакліканняў, наш суразмоўца звяртае ўвагу на падыход да жыцця цяперашніх маладзёнаў і на тое, што ў Касцёле ім можа не хапаць пазітыўных прыкладаў.

***"Сёння юнакі вельмі часта нацэлены знайсці сабе такую прафесію, дзе можна зарабіць найбольш грошай і найхутчэй павысіць статус. Часта моладзі хочацца ўсяго і адразу. Да таго ж цяпер усё горш і горш з практыкаваннем рэлігійнага, духоўнага жыцця, усё больш абыякавасці ў адносінах да веры, да маральнасці. Касцёл у моладзі, на жаль, усё часцей адыходзіць на другі план у жыцці. Некаторыя з іх, нават людзі каталіцкага веравызнання, успрымаюць Касцёл увогуле як архаічную, сярэднявечную ўстанову. Таму маладому чалавеку ўсё цяжэй пачуць голас Езуса Хрыста, які кажа: «Ідзі за мной». Таксама цяжка адважыцца на такі сур'ёзны крок. Нават калі юнак – міністрант, нават калі ён служыць пры алтары, бачыць святара, то не заўсёды вырашыцца пайсці ў семінарыю"***, – тлумачыць кс. Павел.

Сваю ролю адыгрывае і падыход бацькоў да патрэбы катэхізацыі, да духоўнага і рэлігійнага выхавання дзяцей. Як адзначае суразмоўца, для будучага святара вельмі важнай асновай з'яўляецца практыкуючая сям'я, дзе была малітва, асаблівая супольная.

### З ПЕРСПЕКТЫВЫ КАСЦЁЛА

Разважаючы над роляй Касцёла, кс. Павел звяртае ўвагу на важнасць тэмы пакліканняў і на практычнае яе адлюстраванне: ***"З боку Касцёла, здаецца, апрача малітвы аб пакліканнях – яна заўсёды павінна быць і яна ёсць, – варта больш увагі звяртаць на саму праблематыку паклікання. Размова на гэтую тэму ў парафіях фактычна зводзіцца да асяроддзя міністрантаў"***.

У кантэксце працы з літургічнай службай алтара кс. Павел заўважае: ***"У адной парафіі могуць быць сустрэчы міністрантаў, рэкалекцыі, выезды, удзел у спаборніцтвах; там святары ладзяць сумесныя спартыўныя заняткі, гульню ў футбол. Але таксама ёсць душпастырскія пляцоўкі, дзе святар не займаецца гэтым. Магчыма таму, што ў меншых парафіях ён адзін, а магчыма таму, што ў яго няма да гэтага матывацыі"***.

Важным момантам кс. Павел называе рэкалекцыі распазнання паклікання, якія раней рэгулярна адбываліся, напрыклад, у Гродзенскай і Пінскай семінарыях, у рэкалекцыйным доме ў Лебедзеве. Ён выражае спадзяванне, што пасля завяршэння пандэміі каранавіруса гэтая практыка вернецца: ***"Гэта вельмі моцны інструмент, каб «вылавіць» людзей для Хрыста, каб яны акунуліся ў семінарыйную атмасферу. Многія не ведаюць, што такое святарскае пакліканне, яны саромеюцца, баяцца. Каб я не ездзіў на спаборніцтвы міністрантаў, каб сам не ўдзельнічаў у рэкалекцыях распазнання паклікання, не ведаю, ці здолеў бы я адважыцца пайсці ў семінарыю, бо ў мяне была таксама свецкая перспектыва"***.

Узгадваючы ўласную гісторыю выбару святарскага шляху, кс. Павел падкрэслівае, наколькі важны для юнакоў асабісты прыклад святара: ***"Я ўжо неаднойчы распавядаў, што для мяне стала адным з вырашаючых момантаў, калі святар не шкадаваў для міністрантаў грошай, каб купіць марожанае ці нейкае печыва, пайсці з імі ў басейн ці ў заапарк, згуляць у футбол"***. Яшчэ больш кс. Паўла натхніў выпадак, калі аднойчы зімой захварэў ён і ксёндз вікарый у парафіі: ***"Мяне мама не пусціла ў касцёл, бо быў мароз, святая Імша цэлебравалася ў падвале касцёла, які будаваўся, а я лёгка прыхварэў. Пробашча не было, ён выехаў па справах будовы касцёла, а вікарый, які меў тэмпературу 39 градусаў, цэлебраваў дзве св. Імшы. Для мяне гэта быў шок. Чаму святар павінен ісці на рызыку для здароўя толькі таму, што няма кім замяніць яго? Падумаў тады, што сапраўды «жніво вялікае, але работнікаў мала». І вось прыклад гэтага святара, нават крыху гераічны, сапраўды матываваў мяне, каб у будучыні стаць на яго месца, дапоўніць гэтую святарскую супольнасць, каб таксама служыць Богу, бо, магчыма, гэта маё пакліканне"***.



Алюмны падчас святочнай сустрэчы

## АКТУАЛЬНА

Ватыканскае радыё

### Рым: сямейная кансультацыя

Каля чатырох тысяч жанчын сталі за апошні год пацыенткамі Рымскай дыяцэзіяльнай сямейнай кансультацыі "Аль Куадрара", якая ўвайшла ў чацвёрку лепшых італьянскіх санітарных установаў, прызначаных для жанчын з асаблівымі патрэбамі.

Апошнім часам Дыяцэзіяльная сямейная кансультацыя распрацоўвае новы праект – для тат, якія пражываюць асобна ад дзяцей і адчуваюць цяжкасці пры зносінах з жонкай і дзецьмі. Для іх прадугледжаны індывідуальныя гутаркі і групавыя сустрэчы, якія аб'ядноўваюць некалькіх бацькоў з дзецьмі прыкладна аднаго ўзросту для зносін на тэмы, звязаныя з цяжкасцямі на розных этапах развіцця дзіцяці.

### Пажаданні Бенедыкту XVI з усяго свету

Амаль тры тысячы анлайн-допісаў з пажаданнямі былі накіраваны Папе-эмерыту з нагоды 95-годдзя, якое ён адзначыў 16 красавіка 2022 года.

Паводле інфармацыі нямецкай газеты Tagespost, на сайце benedictusXVI.org размешчаны 2893 віншавальныя допісы на 24 мовах.

"З нагоды майго 95-га юбілею я атрымаў шмат сардэчных пажаданняў з усяго свету. Такая колькасць знакаў вернасці і лучнасці прынесла мне шмат задавальнення. З пачуццём удзячнасці я адчуваю сувязь з усімі ў малітве", – такі каментарый Бенедыкта XVI змешчаны на сайце.

Больш за ўсё пажаданняў, акрамя нямецкай, было даслана на англійскай, італьянскай і польскай мовах.

### Манаскія браты змогуць стаць настаяцелямі

Старэйшы настаяцель, кіраўнік манаскага інстытута ці таварыства апостальскага жыцця Папскага права – такія пасады з гэтага часу змогуць займаць тыя, хто ўваходзіць у манаскую сям'ю ў якасці "братоў", гэта значыць, не маючы сану святара.

Нованўвядзенне ў канон 588 §2 папа Францішак устанавіў у рэскрыпце, які ўступіў у сілу 18 мая. Тры месяцы таму Святы Айцец даў Кангрэгацыі па справах інстытутаў кансэкраванага жыцця і таварыстваў апостальскага жыцця "права дазваляць па ўласным меркаванні і ў асобных выпадках" такую магчымасць без шкоды для §1 канона 134 кананічнага права, які вызначае тых, хто надзелены генеральнай ардынарнай выканаўчай уладай.

Папскі дакумент змяшчае чатыры артыкулы, якія агаворваюць розныя ступені прызначэння брата (не святара) на пасаду кіраўніка манаскага інстытута, ці то "прызначэнне" ў якасці мясцовага або старэйшага настаяцеля, ці то "абранне" ў якасці "вярхоўнага мадэратара або старэйшага настаяцеля".

### Малітоўныя інтэнцыі на чэрвень

**паўсюдная**

Молімся ў намеры хрысціянскіх сем'яў ва ўсім свеце, каб дзякуючы канкрэтным жэстам яны перажывалі бескарыслівасць любові і святасць у штодзённым жыцці.

**дыяцэзіяльная**

Молімся аб новых пакліканнях да паслугі ў Касцёле на Гродзеншчыне.

# ЮБІЛЕЙ СВЯТЫНІ І ЎНЯСЕННЕ РЭЛІКВІЙ У КАСЦЁЛ У КАЗЛОВІЧАХ

працяг са с. 1

**16 мая ў парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Андрэя Баболі ў Казловічах (дэканат Гродна-Усход) шматлікія мясцовыя вернікі і госці сабраліся разам на святкаванні 100-гадовага юбілею аднаўлення і асвячэння касцёла.**

Кс. Юрый Марціновіч




Кс. біскуп Аляксандр Кашкевіч уносіць рэлеквіі св. Андрэя Баболі ў святыню ў Казловічах

Гэты дзень для святкавання такога значнага юбілею быў абраны не выпадкова, бо ў парафіі адзначалася адпустовая ўрачыстасць з нагоды літургічнага ўспаміну яе апекуна св. Андрэя Баболі, мучаніка нашай зямлі. Акрамя таго, у гэты дзень у касцёл былі ўнесены рэліквіі святога, перададзеныя ў дар былым пробашчам парафіі кс. канонікам Андрэем Садоўскім, які зараз служыць у Беластоцкай архідыяцэзіі ў Польшчы. Рэліквіі ўнёс у святыню біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч.

У канцы Эўхарыстыі іерарх падзякаваў пробашчу кс. Яўгену Барысюку за клопат аб святыні і даручаных яму верніках, а парафіянам – за трыванне ў веры і прывязанасць да свайго касцёла.

Урачыстасць завяршылася эўхарыстычнай працэсіяй вакол старадаўняга касцёла, які на працягу сваёй гісторыі перажыў многае. У гісторыі гэтай святыні, як у калейдаскопе, змяняліся гаспадары і веравызнанні: грэкакатолікі, рыма-католікі, вернікі Усходняй Царквы і амаль праз шэсцьдзесят гадоў – вяртанне да Рымска-Каталіцкага Касцёла.

## ПАЎСЮДНЫ КАСЦЁЛ

**ПОЛЬШЧА.** У Варшаве некалькі тысяч чалавек прайшлі ад санктуарыя св. Андрэя Баболі да Замкавай плошчы ў пакаяннай ружанцовай працэсіі за Польшчу. Удзельнікі хацелі такім чынам кампенсаваць Богу за грэх абортаў і памаліцца за мір у Польшчы ды Украіне. Мэтай працэсіі быў яшчэ адзін езуіцкі санктуарый – Маці Божай Ласкавай, апякункі Варшавы, – які знаходзіцца ў некалькіх сотнях метраў ад Замкавай плошчы. Працэсіі папярэднічала св. Імша ў санктуарыі св. Андрэя Баболі, якую ўзначаліў яго кусташ езуіт а. Вальдэмар Бажышкоўскі, а гамілію прамовіў рэктар санктуарыя Маці Божай Ласкавай а. Веслаў Куліш.

**НІГЕРЫЯ.** Хрысціянская студэнтка эканамічнага факультэта была забіта камянямі за тое, што нібыта абразіла Мухамеда ў чаце сваёй студэнцкай групы. Паводле паведамленняў мясцовых СМІ, больш за 200 раз'юшаных студэнтаў выцягнулі Дэбару Самуэль Якубу за межы навучальнай установы, дзе яна шукала сховішча, затым закідалі яе камянямі і падпалілі цела. Вінаватыя былі ўстаноўлены дзякуючы відэазапісу, на якім бачны ход злачынства. Смерць дзяўчыны ўжо афіцыйна пацверджана паліцыяй, а навучальную ўстанову, дзе адбылося забойства, рашэннем улад зачынілі на нявызначаны тэрмін.

**ЗША.** Сенатары Дэмакратычнай партыі ў чарговы раз хацелі апярэдзіць Вярхоўны суд Злучаных Штатаў, аддаўшы голас за права рабіць аборты на тэрыторыі ўсёй краіны. Аднак Сенат адмовіў у прыняцці законапраекта аб абортах, папярэдняя версія якога была прадстаўлена ў лютым. Старшыня Вярхоўнага суда ЗША пацвердзіў, што згаданы праект сапраўды існуе, але канчатковае рашэнне яшчэ не прынята. Паводле неафіцыйнай інфармацыі, галасаванне ўжо адбылося і рашэнне прынялі. Аднак закон не зменіцца, пакуль нарматыўныя акты не апублікуюць, што можа заняць некалькі месяцаў. Гэты час хацелі выкарыстаць дэмакраты, але ў сенаце не назбіралася неабходных 60 галасоў.

**РАСІЯ.** Катэдральны касцёл Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Маскве ўпершыню прыняў удзел у штогадовай акцыі "Ноч музеяў". 21 мая госці змаглі агледзець храм знутры ў начны час, пагуляць па тэрыторыі і ўбачыць велічны будынак у начным падсвятленні. Наведвальнікам распавялі аб гісторыі будаўніцтва храма, якому больш за сто гадоў, аб яго працы ў савецкі час, аб каталіцкай супольнасці Масквы, аб унікальным органе, пабудаваным у 1955 годзе – адным з самых вялікіх у краіне. У праграму ўвайшла не толькі экскурсія па катэдры, але і канцэрт арганнай музыкі.

*Падрыхтавана на падставе інтэрнэт-крыніц.*

## ЛІСТЫ ЧЫТАЧОЎ

# ЁН НАШ, МЯШТУНСКІ!

**Кожны чалавек мае свае карані. І куды б не закінуў лёс, душой ён абавязкова вяртаецца да тых мясцін, дзе рабіў першыя крокі і адкуль пайшоў у жыццё.**

Былыя аднавяскоўцы

Паміж Вялікімі Эйсмантамі і Рэпляй распасціраецца вёска Мештуны. Невялікая, уздоўж дарогі. Раней па некалькі сямей у адной хаце жыло. І ў лепшыя часы налічвалася больш за дзве сотні людзей. Сёння ледзьве назбіраецца два дзесяткі. Пройдуць гады, і мясцовасць знікне з твару зямлі. Застануцца толькі высокія таполі і хаты-прывіды. Як напамін, што некалі тут кіпела жыццё.

Але не знікне памяць, што тут жылі веруючыя людзі. Пра гэта расказа прыдарожны крыж. У жніўні 2010 года яго ўзвёў кс. Ян Рэйшаль – святар, родам з нашай вёскі.

Памятаем яго яшчэ хлопцам. Вясёлы, добразычлівы, набожны. І мама яго – вельмі сціплая і добрая жанчына. Апошнім кавалачкам хлеба падзеліцца. Дзверы Зосінай хаты былі заўсёды адкрытыя для людзей. Сюды прыходзілі і з радасцю, і з горам. Усіх прымалі, нікому не адмаўлялі.

Смерць мамы стала для кс. Яна вялікім болем. Ён вельмі сумаваў, хоць і даверыў душу маці ў рукі міласэрнага Бога. Менавіта ў знак яе памяці святар паставіў каля бацькоўскай хаты крыж.

З той пары збіраемся тут на супольнай малітве. Стараемся дагледзець "святое" месца: прыбрацца, упрыгожыць кветкамі.

Памятаем, як усёй вёскай адпраўлялі нашага "ксяндза" ў семінарыю. Хто рубель дасць, хто слоік мёду. Ужо тады яго так называлі, бо і на маёвых набажэнствы людзей збіраў, і на Ружанец, і па нябожчыках спяваў.

Разам мы аб'ездзілі нямала касцёлаў. Былі ў Індуры, Лунне, Крамяніцы, у Вострай Браме і шмат дзе яшчэ. Ён заўжды ведаў, што адбываецца ў суседніх парафіях. Пра ўсё паведамляў.

Мабыць, місія кс. Яна на гэтай зямлі – быць веснікам добрай навіны. Спачатку ён спяшаўся да нас з газетамі і тэлеграмамі, калі развозіў пошту яшчэ да семінарыі, а потым ужо як святар абвяшчаў з амбоны.

Умеў вынаходліва дастукацца да нашых мужчын. Магчыма, і таму, што быў з іх асяроддзя. Да яго прыслухоўваліся, меркаванне святара лічылі аўтарытэтным.

Так і па сёння! Да яго звяртаюцца з набалелым, шукаюць падтрымкі. А ксёндз, у сваю чаргу, да канца жыцця ўдзячны аднавяскоўцам за малітоўную падмогу. Пра гэта не стамляецца паўтараць.

Заўжды, калі не прыедзе, мае з сабой нейкія слодычы. Нашы ўнукі выраслі на яго цукерках! Калі аказваецца ў роднай вёсцы, запрашае ўсіх у сваю хату на каву. Гаворыць, што тут, у Мештунах, "паветра пахне".



Кс. канонік Ян Рэйшаль са святарамі падчас асвячэння прыдарожнага крыжа ў в. Мештуны

Дзверы святарскага дома таксама заўсёды адчынены. У сваёй парафіі вітае нас як самых дарагіх гасцей. Пры нагодзе не раз прыязджалі да ксяндза ў Жалудок. Пасябравалі нават з мясцовымі парафіянкамі. Цудоўныя, мілыя жанчыны! Лічым, што ім вельмі пашчасціла з пробашчам. Шчыра перакананы ў гэтым.

Кс. Ян нібы ручай: жывы, бурлівы, звонкі. Увесь час у руху, у нейкіх справах. Але адначасова чулы і ўважлівы. Усіх нас памятае, пра ўсіх цікавіцца. "А як там Стася? Як Дануся?", – пытаецца. Насамрэч, "мяштунскіх" ужо засталася горстка, але з кожным кс. Ян знойдзе нагоду загаварыць. Яго і любіць старэйшае пакаленне за блізкасць да людзей. Ён сапраўды наш, свой чалавек.

Кс. Ян хрысціў мясцовых дзяцей. І сам нават быў хросным бацькам. Быў сведкам вяселляў, шлюбаваў. Наколькі ж мы ўсе павязаныя кроўна і духоўна...

А сёлета мінае 30 гадоў, як кс. Ян атрымаў святарскае пасвячэнне. Падчас прымiцыйнай св. Імшы ў Рэплі касцёл быў набіты бітком. Першы ксёндз з парафіі! Гэта было сапраўды вялікай падзеяй не толькі для самога ксяндза, але і для ўсёй вёскі: тут яго ўзрасцілі, узгадавалі. Будзем шчырыя, вялікі гонар мець штосьці супольнае з чалавекам, якога Бог выбраў адным са сваіх намеснікаў на зямлі. А мы ж аднымі сцежкамі хадзілі, ваду з аднаго калодзежа пілі...

Дай Божа табе, кс. Ян, доўгіх гадоў жыцця. Няхай хапае сіл і энергіі на ўсе добрыя справы. Дзякуем за ўсё! Пры нагодзе моцна абдымемся.

### Даведка "Слова Жыцця"

Кс. канонік Ян Рэйшаль нарадзіўся 3 чэрвеня 1958 года. Ва ўзросце 29 гадоў паступіў у Рыжскую каталіцкую духоўную семінарыю (Латвія). Святарскае пасвячэнне атрымаў 24 мая 1992 года з рук біскупа Аляксандра Кашкевіча ў катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя ў Гродне. Пасля пасвячэння апекаваўся трыма парафіямі: у Скрыбаўцах, Моцевічах і Жалудку. У апошні час служыць пробашчам па сёння. У 2017 годзе прызначаны ганаровым канонікам капітула Унебаўзяцця НПМ і св. Казіміра.

# “ІНВЕСТЫЦЫЯ Ў ЧАЛАВЕКА АПЛАЧВАЕЦЦА”, – З АЙЦОМ ЦВЯЧКОЎСКІМ ПРА ПОСПЕХ КАНІКУЛ З БОГАМ

*працяг са с. 1*

***Размаўляў Арцём Ткачук***



***А. Міхаіл Цвячкоўскі MIC –*** *марыянін, пробашч парафіі і кусташ санктуарыя Маці Божай Фацімскай у Жодзіне. Дырэктар Пастаральнага Цэнтра пры ККББ у 2010–2012 гадах.*

***– Вы былі дырэктарам Пастаральнага цэнтра пры ККББ у 2010–2012 гадах. Распавядзіце, калі ласка, якімі былі Канікулы з Богам у тыя часы?***

– Тады ўсё выглядала так, як і цяпер. Кс. Павел Гедройць *(першы дырэктар Пастаральнага цэнтра – заўв. аўт.)* ужо запусціў усю сістэму.

Канікулы з Богам – гэта цудоўны праект. Гэта справа, якая даўно рэалізавалася, рэалізуецца і будзе рэалізавацца ў парафіях. Не ў кожнай, але ў многіх. На такіх сустрэчах дзеці практычна вучацца, што значыць быць хрысціянінам. З імі ладзяцца курсы, забавы, але адначасова там ёсць св. Імша, малітва, засяроджанне над Божым словам. Гэта перадача стылю жыцця, у якім ёсць Бог. Людзі, што ладзяць такія рэчы, уносяць неверагодны ўклад у жыццё Касцёла. Фактычна выпрацоўваецца стыль хрысціянскага жыцця.

***– У чым сакрэт поспеху гэтай адной з найвялікшых ініцыятыў Касцёла ў Беларусі? Чаму яна настолькі распаўсюджана?***

– Можна пералічыць некалькі прычын. Гэтыя праекты робяцца цікавымі, бо дзеці любяць цікавыя рэчы. Узгаданыя забавы, майстар-класы і супольныя малітвы прыцягваюць. Прытым усё адбываецца ў межах адпачынку, а не абавязку.

Да таго ж ёсць жаданне бацькоў аддаваць дзяцей у летнікі, бо яны прыносяць карысць. Пры гэтым больш ахвотна аддаюць менавіта ў касцёльныя летнікі, а не ў тыя, што праходзяць пры дзяржаўных школах. Можна задаць пытанне “чаму?”. Свой адказ у мяне ёсць, але затрымаю яго для сябе.

Ну і яшчэ адзін з фактараў – тое, што арганізатарамі такіх летнікаў, як-ніяк, заўсёды з’яўляюцца святары, катэхеты ці манаскія сёстры. Усе яны рэалізуюць гэтую ініцыятыву на высокім узроўні, бо бачаць патрэбу ў каталіцкім выхаванні. Без такога выхавання не закладзецца добры фундамент, а летнік – выдатны фундамент для далейшага хрысціянскага ўзрастання.

***– І ўсё-такі: у чым феномен Канікул з Богам? Кожная паважаючая сябе парафія іх арганізоўвае, гэта прынята паўсюль, абсалютная большасць пробашчаў дбае пра менавіта гэты праект. У чым сакрэт? Цяжка прыгадаць якія-небудзь іншыя ініцыятывы, якія б настолькі трывала ўпісаліся ў парафіяльныя планы.***

– Я не маю адназначнага адказу на гэтае пытанне *(смяецца – заўв. аўт.)*. Магу падзяліцца домысламі.

Гляджу на гэта вельмі проста. Канікулы з Богам прыносяць педагагічны хрысціянскі плён. Вельмі добры. Дзіцё ўзрастае ў касцёльнай атмасферы і пазней, калі стане дарослым, будзе вяртацца да гэтых момантаў. Бо жыццё нялёгкае, у ім сустрэнецца шмат выклікаў.

Псіхолагі кажуць, што да 12-га году жыцця асоба фарміруецца на ўзроўні падсвядомасці. У гэтым узросце дзеці прымаюць як важнае і каштоўнае тое, што перадаецца аўтарытэтам – настаўнікам, бацькамі, святаром. Яны гэта не крытыкуюць, а прымаюць. Пасля 12-ці гадоў уключаецца г. зв. цяжкі перыяд, бо з’яўляецца крытычная рэфлексія. На яе аснове малады чалавек часта адыходзіць ад Касцёла. Таму важна інвесціраваць у дзіцячы перыяд, каб, перажыўшы яго прыгожа, дастойна, з захапленнем у Касцёле, чалавек прызнаў у крытычны перыяд свайго жыцця, што яму гэта патрэбна. Вось у чым мудрасць летнікаў. Вось чаму яны не могуць ладзіцца абы як, павінен заставацца пазітыўны водгук. У летніку вялікае значэнне маюць не толькі моманты адпачынкавага характару, але і расстаўленыя акцэнты: паглядзіце, дзеці, як важны Бог у жыцці чалавека. Ксяндзы і катэхеты бачаць гэта і ведаюць. Таму і дбаюць пра канікулы. Бо важна засеяць зерне, закласці фундамент.

***– А чаму так не спрацавала з іншымі катэгорыямі вернікаў у Касцёле? Моладзь, дарослыя, пенсіянеры? Сужэнскія сустрэчы, напрыклад.***

– Не да канца згаджуся. Шмат, канешне, залежыць ад парафіі. Таксама пра сустрэчы дарослых, напрыклад, менш гаворыцца. Найлепшыя рэчы робяцца ў цішыні.

Магчыма, прысутнічае такі элемент, што з дзецьмі прасцей, менш складаных пытанняў *(смяецца – заўв. аўт.)*. Хоць калі мы кажам пра сур’ёзную веру, то нельга баяцца сур’ёзных пытанняў. Гэта мабілізуе да мыслення і адказу на іх.

***– З дзеткамі ўсё проста: пагуляцца, пасмяяцца.***

– Дзеткі не крытыкуюць.

***– Менавіта. А сустрэчы з моладдзю, дарослымі, пенсіянерамі патрабуюць сур’ёзнай духоўнай і інтэлектуальнай падрыхтоўкі. У персанальным плане яны каштуюць даражэй. Можа быць, у гэтым справа?***

– У любыя сустрэчы трэба ўключаць інтэлект і ведаць, куды вядзеш. На маю думку, якую б акцыю ты не рабіў, заўжды павінен ведаць, якое зерне хочаш пасеяць, што хочаш даць. Калі няма гэтых планаў, лепш такія рэчы не пачынаць. Канешне, дзеці не крытыкуюць, з імі класна, яны прыйдуць і паабдымаюцца, паспяваюць. Аднак, калі ты вядзеш іх не ў тым накірунку, будзеш збіраць плён, і ён можа аказацца горкімі слязьмі. Рабіць дзеля таго, каб зрабіць, – гэта няправільна.

Таму падрыхтоўка павінна быць да кожнай ініцыятывы. Так, да сустрэчы з дарослымі яна мусіць быць больш сур’ёзная, і не кожны пагодзіцца з усімі адказамі. Аднак вера шукае разумнага тлумачэння. З дзецьмі, вядома, прасцей. Хоць і яны могуць паставіць складаныя пытанні. Калісьці адна сямігадовая дзяўчынка запыталася ў мяне: “Калі Хрыстос уваскрос, ён адчыніў неба. А куды ішлі душы да ўваскрасення Хрыста?”. Гэтае пытанне змусіла мяне адкрыць кнігі і прыгадаць, што такое Шэоль, Хадэс і Адхлань.

***– Кажучы пра плён... Сёння дзеці маюць штотыдзень 45 хвілін катэхезы, нядзельную Імшу, Канікулы з Богам. І ўсё роўна мы губляем моладзь. Чаму?***

– Гэтае пытанне турбуе душу кожнага святара, які адказна ставіцца да свайго душпастырства. Адбываецца простая рэч: Касцёл не з’яўляецца адзіным педагогам. На выхаванне, у першую чаргу, уплывае сям’я. Калі паглядзець на праблему глыбей, бачна, што часцей за ўсё веру пакідаюць тыя, у каго ёсць рэальныя праблемы ў сям’і. Прынамсі, па сваім душпастырскім вопыце я бачу гэта вельмі выразна. Зазвычай там няверуючы бацька ці маці, якія крытыкуюць, іх паводзіны не супадаюць з хрысціянскім навучаннем, дома кажуць адно, а робяць другое. Так дзеці вучацца падманваць. Яны вырастаюць і робяць высновы, выбары. Там, дзе сям’я моцная, такія праблемы сустракаюцца рэдка.

Другая рэч, якая ўплывае – тое, што дзеці прыходзяць са свецкага асяроддзя. У ім Бог непатрэбны. Нас вучаць быць добрымі і таленавітымі людзьмі, але без Бога. Дзеці прыходзяць у Касцёл, чуюць пра Божыя рэчы, а пазней вяртаюцца ў сваё асяроддзе, у тую атмасферу. Сюды дадаюцца праблемы ў сям’і, пра якія я ўзгадваў. Таму разам з узнікненнем крытычнага мыслення дзіцё знікае з Касцёла. І ніякія Канікулы з Богам яго не ўратуюць. Пачынаюцца сур’ёзныя пытанні, на якія дзіцё вырашае даць адказы без Бога.

***– У такім выпадку Вам не падаецца, што мы бяромся за праблему з канца? Мы працуем з дзецьмі, а пазней моладзь сыходзіць з-за праблем у сем’ях. Можа быць, трэба большы націск рабіць на сужэнствы і дарослых?***

– Не да канца згаджуся. З душпастырскага досведу. Бо працуючы з дзецьмі, мы маем шанс дайсці да бацькоў. З бацькамі можна сур’ёзна паразмаўляць падчас падрыхтоўкі да хросту іх дзіцяці. Тады робіцца вялікае намаганне, каб адкрыць, для чаго ўсё патрэбна. Хоць, канешне, не факт, што гэтыя бацькі застануцца ў Касцёле.

Ёсць яшчэ добры момант падчас падрыхтоўкі сужэнстваў да шлюбу. Аднак я сведка таго, што нават пасля такой індывідуальнай працы многія з Касцёла знікаюць. Уплыў навучання не прыносіць стопрацэнтны эфект, аднак гэта не азначае, што не трэба сеяць.

Як па мне, то неабходна працаваць ва ўсіх кірунках і ўкладаць у гэта сэрца. Трэба спадарожнічаць і дзецям, і бацькам, і моладзі. Усім катэгорыям. Важна таксама памятаць, што ўсё залежыць не толькі ад твайго прыгожага навучання, але і ад Божай ласкі. Ну і, канешне, людзі глядзяць на стыль твайго жыцця. Тут ужо не падманеш.

***– Ці патрэбны сёння нейкія рэформы, новы фокус у справе Канікул з Богам?***

– Я заўважыў такую рэч: цішэй едзеш – далей будзеш. Вельмі важна з дзецьмі быць. Яны хочуць быць з асобай. Навучанне Касцёла само па сабе простае, клопаты прыносіць выкананне. Не трэба прыдумваць нейкія новыя невядома якія формы, як дастукацца да чалавека. Нішто не заменіць звычайнага кантакту.

Так, трэба ісці ў пары са светам. Трэба выязджаць з дзеткамі па-за тэрыторыю парафіі, у цікавыя мясціны. Аднак гэта не заменіць асновы: калі любіш, рабі. Каб дзеці і дарослыя бачылі, што гэта не проста адбыты час, а што ты прабываеш з імі якасна. Якасна праведзены час – найлепшая фармацыя.

Кожная інвестыцыя ў чалавека заўсёды аплачваецца. А гэта рэгулярная інвестыцыя, гэта працэс.

***– А Вам не падаецца, што нярэдка бацькі банальна выкарыстоўваюць Канікулы з Богам? За тваімі дзецьмі паглядзяць летам, прычым за дарма. А ўжо пытанне перадачы веры – другаснае. Касцёл гэта разумее і ўсё роўна выкарыстоўвае такую шчылінку, каб дастукацца да людзей. Дзе ў гэтым залатая сярэдзіна?***

– Думкі людзей я не чытаю, адкрыта пра гэта не гавораць. Калі для кагосьці гэта пэўны момант адпачыць ад дзяцей – няхай адпачываюць, гадаваць дзяцей складана.

Тое, што Касцёл укладвае ў летнікі, ёсць заўсёды і паўсюль. У гэтым і заключаецца гуманітарная місія Касцёла. Бацькі таксама робяць свой матэрыяльны ўклад. Я такімі рэчамі не цікаўлюся. Разумная інвестыцыя ў людзей – гэта самае галоўнае, што мусіць рабіць Касцёл. І матэрыяльныя сродкі павінны гэтаму служыць.



*А. Цвячкоўскі з дзецьмі падчас парафіяльнага летніка*

# АПОСТАЛ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

працяг са с. 1

***"Святы Ойча! Больш за мільён беларусаў-католікаў у Польшчы, як частка 12-мільённага беларускага народу, стаўшы на шляхах культурнага і палітычнага адраджэння, шпарка імкнецца ўперад. […] Гэная стагнацыя, гэная пераробка нашага роднага на чужое страсае нейкім жахам смерці кожную хоць крыху свядомую душу беларускую".***

Апрацавала Ангеліна Марцішэўская



Такімі словамі пачынаецца "Мемарыял пятнаццаці" з 1925 года, адным з аўтараў якога з'яўляецца кс. Міхал Шалкевіч, руплівы абаронца беларушчыны. У згаданы перыяд заходняя частка беларускіх зямель знаходзілася пад уладай Польшчы, якая, у сваю чаргу, якраз падпісала канкардат з Апостальскай Сталіцай. Дакумент змяшчаў пункты, што ўскладнялі душпастырства беларусаў. Між іншым – немагчымасць увядзення беларускамоўных казанняў і набажэнстваў, бо змена мовы ў гэтых выпадках магла быць здзейснена толькі з дазволу канферэнцыі біскупаў Польшчы. Гэта і падштурхнула 15 беларускіх святароў на чале з кс. Шалкевічам, тагачасным пробашчам у Тракелях, выступіць супраць палажэнняў канкардата, якія ўціскалі правы беларусаў.

Служэнне кс. Міхала прыпала на зменлівы і ліхі перыяд у гісторыі нашай краіны: Беларусь у складзе Расійскай імперыі, баявыя дзеянні І Сусветнай вайны на нашых тэрыторыях, пасля падзел фронтам і нямецкая акупацыя, затым рэвалюцыя ў Расіі і хваля актывізацыі розных сацыяльных груп, на заканчэнне – савецкі атэістычны час. Пры кожным становішчы кс. Шалкевіч захоўваў вернасць Хрысту і клопат пра беларускую індывідуальнасць. Каб не настала "цемната рэлігійная" і "нацыянальная смерць", як згадваецца ў "Мемарыяле".

### АСОБА З ВЯЛІКАЙ ЛІТАРЫ

Кс. Міхал Шалкевіч паходзіў з вёскі Дубавая Гродзенскага раёна з сям'і, дзе выхоўвалася 10 дзяцей. Магчыма, адтуль ён вынес і прыклад стаўлення ў любові да кожнага чалавека. Як пасля ўзгадвала яго пляменніца, "дзядзька, кс. Міхал Шалкевіч, заўсёды казаў, што нават калі я буду мець апошні кавалак хлеба, але буду бачыць, што хтосьці галодны, то павінна з ім падзяліцца".

Духоўную фармацыю будучы святар атрымліваў у Віленскай семінарыі. Адметна, што падчас вучобы ён быў удзельнікам гуртка клерыкаўбеларусаў, які ставіў за мэту вывучэнне яго ўдзельнікамі беларускай культуры. Пасля кс. Міхал актыўна выкарыстоўваў атрыманыя веды падчас катэхізацыі, каб данесці сэнс Евангелля да вяскоўцаў на зразумелай для іх мове.

У 1915 годзе ён атрымаў прэзбітэрскае пасвячэнне, адразу распачаўшы плённую службу на ніве Пана. Спачатку быў накіраваны на працу ў Маскву, дзе дапамагаў палякам-мігрантам, пасля пачаргова служыў у маленькіх мястэчках Беларусі. Характэрнай рысай кс. Шалкевіча з'яўлялася тое, што ён заўсёды стараўся цікавіцца жыццём таго месца, дзе служыў, і прымаць у ім актыўны ўдзел. Пра гэта сведчаць манаграфіі і артыкулы, якія святар прысвячаў вёскам, у якіх выконваў душпастырскую паслугу.

Не пакідаў без клопату і матэрыяльны бок жыцця сваіх парафіян. У Тракелях кс. Міхал садзейнічаў арганізацыі кааператыўнай малачарні, дзе займаў пасаду старшыні Нагляднай рады. Між іншым, ён дапамагаў з асветай сялян у пытанні рацыянальнай гадоўлі жывёл і цудоўна разбіраўся ў фінансавым боку справы.

Падчас абедзвюх акупацый – савецкай і нямецкай – кс. Міхал ставіў сабе за мэту клопат пра пакрыўджаных. З яго дапамогай адпраўляліся харчовыя пасылкі сем'ям, сасланым у Сібір. А тых, каго хацелі вывезці на прымусовыя працы ў Германію, ён выкупаў праз хабар з сала і алкаголю. Разам з тым вядома гісторыя, як кс. Шалкевіч выпрасіў у нямецкага каменданта адмяніць рашэнне аб расстрэле габрэяў у Тракелях, а таксама дапамагаў уцекачам з мясцовага гета.

Нягледзячы на спагадлівасць святара, у 1949 годзе кс. Міхал быў абвінавачаны ў антысавецкай дзейнасці – захоўванні ў сваім памяшканні адмысловай літаратуры – і асуджаны на 10 гадоў лагернай працы на Урале. Камуністычныя ўлады нават не прынялі пад увагу, што ксёндз хаваў у сябе не толькі "забароненую публіцыстыку", але і савецкага партызана, якому пагражала расправа ад фашыстаў, а таксама матэрыяльна ўтрымліваў яго сям'ю.

Падчас знаходжання ў лагеры кс. Міхал атрымліваў ад вернікаў харчовыя пасылкі і, следуючы свайму жыццёваму credo, дзяліў іх з іншымі зняволенымі. З лагера святар быў звольнены раней як інвалід. Вярнуўся ў Беларусь, пасля ў Польшчу, дзе памёр і пахаваны.



*Святар сцвярджаў, што неабходна рэформа з павелічэннем сялянскіх гаспадарак за кошт абшарніцкіх, каб сяляне, гледзячы на няроўнасць, не сталі прыхільнікамі сацыялізму*

### "ШЧЫРЫ БЕЛАРУС"

Прапаведаваць на беларускай мове кс. Міхал пачаў у 1917 годзе, калі пасля Лютаўскай рэвалюцыі, атрымаўшы адносную свабоду ў дзеяннях, біскуп Эдвард Роп выдаў дэкрэт, каб у вясковых і мястэчковых парафіях Дзісеншчыны ў казаннях і дадатковых набажэнствах ужывалася беларуская мова. У тыя часы такое было рэдкасцю, бо ў асноўным мясцовы Касцёл карыстаўся польскай мовай. Для большасці вернікаў гэта быў першы выпадак, калі яны пачулі казанне па-беларуску, маючы магчымасць "дакрануцца" да Слова. Аднак кс. Шалкевіч не проста следаваў наказу, але быў сапраўдным патрыётам. Напрыклад, яшчэ да выхаду загаду ён прымаў удзел у з'ездзе ксяндзоў-беларусаў, на якім абмяркоўваўся лёс беларускага народа і перспектывы развіцця адмысловага душпастырства.

У 1920 годзе кс. Міхал Шалкевіч распачаў служэнне ў Тракельскай парафіі. Праз дзесятак гадоў ён быў узнагароджаны мясцовымі ўладамі за грамадскую дзейнасць. Памяць пра яго паслугу ў гэтым месцы жывая да сёння. 14 мая ў санктуарыі Маці Божай Тракельскай адбылася св. Імша з нагоды 100-годдзя прызначэння кс. Міхала пробашчам у парафію.

У Тракелях святар ужо не прапаведаваў па-беларуску з прычыны шматлікіх непаразуменняў у Віленскай дыяцэзіі па нацыянальных і моўных пытаннях. Аднак ён распаўсюджваў сярод мясцовых вернікаў перыёдыку і літаратуру на беларускай мове. З гэтай жа прычыны быў абвінавачаны польскім "Dziennikiem Wilenskim" у шкоднай для польскай дзяржавы беларускай агітацыі. Аднак палітычна кс. Міхал быў лаяльны да польскай улады, ён проста хацеў клапаціцца пра беларускія душы.

**Успаміны грэка-каталіцкага святара Льва Гарошкі: "Як жа не адведаць такога святара «на правінцыі», якога суседзі палякі называюць шчырым беларусам?! Кс. Міхась Шалкевіч якраз канчаў працу ў пчальніку, калі я з'явіўся ў ягоным садзе. Ён сапраўды вельмі ўсцешыўся, што я завітаў да яго. Гаварылі мы з кс. Шалкевічам да позняе ночы аб усіх нашых радасных і сумных справах. Там, у ягонай парафіі, больш чым дзе можна было назіраць, у якой атмасферы жывуць беларускія святары і вернікі ў Віленшчыне. На абшырным дварышчы каля прэзбітэрыі працавала некалькі чалавек. Здалёк чуваць было, што між сабою яны гаварылі па-беларуску, але як толькі заўважылі , што я, незнаёмы для іх чалавек, праходжу каля іх, адразу сціхлі і працавалі моўчкам".**

*Рэдакцыя газеты выказвае падзяку краязнаўцу Кастусю Шыталю за дапамогу ў пошуку матэрыялаў для артыкула.*

ЗАДАЙ ПЫТАННЕ

## Як пераадолець няўважлівасць на малітве і навучыцца засяроджвацца?

grodnensis.by

*Малітва – гэта размова з Богам. Таму кожны раз, калі мы хочам пасапраўднаму памаліцца, мы павінны знайсці не толькі месца, але і адпаведны час.*

*Само засяроджанне падчас малітвы – гэта праца. Ніколі не атрымаецца ўсё адразу, але з часам – напэўна.*

*Перш за ўсё, трэба разумець, што малітва – гэта не толькі словы, але і пачуццё прысутнасці Бога. Калі гартаем старонкі Евангелля, бачым, як у пэўны момант вучні просяць Пана Езуса навучыць іх маліцца (параўн. Лк 11, 1).*

*Ці азначае гэта, што вучні Хрыста не ведалі, як маліцца? Напэўна, ведалі, больш за тое – маліліся. Тады ў чым жа справа? У тым, што Езус сапраўды паказаў ім прыклад жыцця ў прысутнасці Бога, калі малітва перастае быць толькі гукам, а ператвараецца ў жыццё.*

*Вось тут варта падаць некалькі добрых практычных парад. Перш чым распачаць маліцца, варта скончыць усялякія заняткі, каб нішто нам не перашкаджала (бо будзе вельмі непрыемна, калі падчас літаніі ці малітвы "Ойча наш..." раптам пачуем, што ў нас закіпела вада ці падгарэла ежа).*

*Затым трэба суцішыцца. Знайсці ўнутраны супакой і цішыню ў сваіх думках (быццам спыніць усе хвалі на возеры). Можа, нават услухоўвацца ў стук уласнага сэрца, якое збіраецца праславіць Бога.*

*Узяць у рукі малітоўнік ці ружанец. Падумаць, у якой інтэнцыі буду прасіць Бога, а можа, за што хачу Яму падзякаваць. І... распачаць сваю ціхую, шчырую, па-дзіцячы адданую малітву.*

*На заканчэнне хочацца дадаць яшчэ адну думку: ніколі не стамляйцеся. Нават калі не атрымаецца адразу, памятайце, што Бог заўсёды побач.*

# ВЯРЭЙКІ. КАСЦЁЛ І ЯГО БУДАЎНІКІ

Андрэй Вашкевіч

Гісторыя Вярэйкаў не такая даўняя, як у большасці населеных пунктаў Гродзеншчыны. Яшчэ ў 1796 годзе гэта была вёска Рэплеўскай парафіі, якая складалася ўсяго з трынаццаці двароў. Аднак Вярэйкі пачалі імкліва расці і багацець, дзякуючы гаспадарлівасці роду Біспінгаў, выхадцаў з Вестфаліі. Біспінгі перахалі ў Вялікае княства Літоўскае, каб схавацца ад рэлігійнага праследу, і доўга служылі каралям і вялікім князям на дзяржаўных і вайсковых пасадах. Так склалася, што найбагацейшыя валоданні на Гродзеншчыне Біспінгі сабралі ўжо пад канец існавання Рэчы Паспалітай. Дзве дачкі Юзафа Біспінга – Юзэфа і Аляксандра – на дваіх аказаліся ўласніцамі не толькі Вярэйкаў, але і Галоўчыцаў, Кузьмічаў, Дзявяткаўцаў, Струбніцы, Верцялішкаў і многіх іншых вёсак і маёнткаў.

Кажуць, што іх маці Тэадора Біспінг была жанчынай хаця і гаспадарлівай, аднак вельмі любіла гуляць у карты. Аднойчы яна прайгралася царскаму палкоўніку Аляксандру Міхайлавічу Светчыну і, спадзяваючыся, што той даруе доўг, пагадзілася выдаць за яго замуж сваю дачку Аляксандру. Так пачалася гісторыя доўгага сямейнага жыцця каталічкі і праваслаўнага, у выніку якой з'явіўся касцёл у Вярэйках.

У пачатку XIX стагоддзя ў вёсцы ўжо была капліца, дзе праводзіліся службы і хвалі прадстаўнікоў роду Біспінгаў, аднак Аляксандра Светчына пачала рабіць высілкі для пабудовы касцёла. Фінансавы стан дазваляў ёй гэта зрабіць, паколькі маладая сям'я разводзіла коней, прадавала шмат збожжа ў Каралявец, ндрэнна жылі і іх сяляне. Таму Светчыны-Біспінгі ўзялі на сябе абавязак пабудаваць касцёл у Вярэйках і праваслаўную царкву ў Кузьмічах.

У 1826 годзе быў зацверджаны складзены ў Санкт-Пецярбургу неакласіцыстычны праект новага касцёла, які павінен быў размясціцца на ўзгорку пасярод вёскі, там, дзе стаяла старая капліца. Будаўніцтва касцёла цягнулася доўга. У 1838 годзе памёр Аляксандр Светчын, каханая жонка пахавала яго ў спецыяльна збудаванай капліцы на могілках. У чэрвені 1840 года касцёл пад тытулам Найсвяцейшай Панны Марыі быў асвечаны. Святыню пабудавалі ў кантэксце тагачаснай архітэктурнай моды – з трохкутным франтонам, ганкам з калонамі дарычнага ордэра, паўкруглымі скляпеннямі, гіпсавымі скульптурамі святых. Каля касцёла знаходзіліся дзве капліцы са званамі, на адной з якіх змясцілі гадзіннік.

Аляксандра Светчына-Біспінг памерла ў 1853 годзе, а ўсе яе валоданні, як і валоданні яе сястры Юзэфы, перайшлі да іх сваяка Аляксандра Біспінга. Той, праўда, нядоўга радаваўся багаццю, паколькі па падазрэнні ў дапамозе паўстанцам 1863 года быў высланы ў Сібір, дзе скончыў жыццё самагубствам у 1867 годзе. Маёнтак перайшоў іншым прадстаўнікам шматлікага роду Біспінгаў, якія валодалі ім да 1939 года.



Знешні выгляд парафіяльнага касцёла

На наступны год касцёл быў пераасвечаны ў праваслаўную царкву. Цікава, што хаця запавет Аляксандры Светчынай выдаваць штогод па 600 рублёў міласціны жабракам далей выконваўся і праваслаўнымі святарамі, аднак яе труну перавезлі ў склеп касцёла ў Вяліхіх Эйсмантах. Святыні прыдалі праваслаўны выгляд, разабраўшы порцік і прыбудаваўшы спераду званіцу.

Будынак вярнулі Касцёлу толькі ў 1920-ых гадах. Тады яму вярнулі першапачатковы выгляд і інтэнсіўна рамантавалі, аздаблялі і забяспечвалі ўсім неабходным. Парафіяне жылі адной сям'ёй, дружна працавалі на карысць святыні. Як і большасць хрысціянскіх храмаў на нашай зямлі, у пачатку 1950-ых гадоў касцёл у Вярэйках быў зачынены. Вернікам патлумачылі, што яны могуць наведваць суседнія касцёлы, якія таксама неўзабаве зачынілі. У 1990 годзе касцёл быў вернуты католікам, хаця для гэтага прыйшлося сабраць спецыяльную камісію, якая мусіла даследаваць пытанне, каму будынак належаў ад самага пачатку. Цяпер касцёл у Вярэйках радуе вока кожнага, хто праязджае па гэтых мясцінах.

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

Кс. Юрый Марціновіч, святар рымска-каталіцкага абраду

***29 мая – каментарый да Евангелля на VII Велікодную нядзелю** (Ян 17, 20–26)*

### Аблічча Бога – Любоў

*Гэты ўрывак з Евангелля паказвае, што кожны чалавек важны для Езуса, таму Ён моліцца аб еднасці ўсіх вернікаў. Аднак гэта не такая звычайная еднасць. Яна павінна быць сапраўднай, такой жа, як паміж Боскімі Асобамі ў Святой Тройцы. А тая еднасць невераготная. Гэта адна Любоў, адзін Дух, адна Воля. Самі людзі не здольныя на такое дасканалае адзінства адзін з адным. Яно з'яўляецца дарам ад Бога. Таму Езус горача моліцца аб гэтым дары для ўсіх.*

*Такая еднасць дае выдатны плён любові. І ён бачны іншым. Праз еднасць звычайныя вернікі становяцца сведкамі Езуса, як апосталы. Яны жывуць Богам, нясуць Слова і пэўным чынам працягваюць місію самога Хрыста. Свет мае патрэбу ў любові. Тое, што адбываецца сёння навокал, з'яўляецца вынікам яе недахопу. Усе вернікі павінны сваім жыццём пераканаць свет у любові Бога да чалавека. А яна поўнасцю аб'явілася ў Езусе. Таму яны павінны пераканаць у тым, што Усемагутны паслаў свайго Сына да людзей, каб адкрыць ім сапраўднае Аблічча Бога, якім з'яўляецца Любоў. Езус дасканала выканаў сваю місію, дзякуючы еднасці з Айцом. Цяпер Ён просіць за кожнага з нас, каб і мы маглі выканаць сваю місію так, як Ён. Езус даў усё, што трэба для нашага задання.*

*Малітва Хрыста з'яўляецца не толькі просьбай, скіраванай да Айца. Езус прамаўляе гэтыя словы перад абліччам сваёй хуткай мукі і смерці. Такім чынам, Яго словы носяць рысы свайго роду запавету. Можна сказаць, што тая еднасць, пра якую Ён гаворыць, – гэта таксама задача кожнага чалавека. Мы павінны маліцца аб ёй і старацца рэалізаваць. Так Езус запэўнівае нас, што даў нам дар еднасці – той еднасці, у якой Ён сам трывае з Айцом. Ён кажа, што ўдзяліў нам сваю славу, якую даў Яму Айцец. Палюбіў нас любоўю, якая ёсць паміж Імі. Мы нібы маем гарантыю наяўнасці гэтай еднасці, бо ўсё, што для яе трэба, ужо ўкладзена ў нас. Наша задача – рэалізаваць яе. Мы стараемся выканаць просьбы паміраючага, які ўжо блізкі да смерці. І Езус чакае, што мы сур'ёзна паставімся да Яго слоў. Адкрытасць на дар еднасці – гэта ўмова апостальскага характару Касцёла. Толькі праз еднасць, якая з'яўляецца адзінствам самога Бога, Касцёл можа абвяшчаць уваскрасенне Хрыста. Толькі праз гэтую еднасць ён можа адкрыць свету Аблічча Бога – Любоў. Толькі так можа пацягнуць за сабой згубленыя душы.*

А. Андрэй Крот, святар грэка-каталіцкага абраду

***5 чэрвеня – каментарый да першага чытання ў нядзелю Спаслання Святога Духа** (Дз 2, 1–11)*

### Той, хто яднае народы

*"Калі Усявышні, зышоўшы, мовы змяшаў, Ён раздзяліў між сабой народы; калі ж паслаў вогненныя языкі, да еднасці ўсіх паклікаў. Дзеля гэтага мы ўсе згодна славім Усесвятога Духа". Гэты спеў, званы кандаком, які гучыць у Царкве візантыйскай традыцыі ва ўрачыстасць Зыходу Святога Духа, падкрэслівае важную для сённяшняга свету праўду: трэцяя Асоба Святой Тройцы – гэта Той, хто яднае людзей.*

*Аўтар старажытнага літургічнага тэксту парафразуе вядомы фрагмент з Дзеяў Святых Апосталаў. Вучні Хрыста пасля Зыходу Святога Духа пачалі распавядаць пра Уваскрасенне Госпада на розных мовах, і пілігрымы, што сабраліся ў Ерусалім з розных краін, "былі ўражаныя і здзіўляліся, кажучы: «Ці ж усе тыя, хто гавораць, не галілейцы? Як жа мы чуем кожны сваю мову, у якой нарадзіліся? Парфяне і мідзяне, эламіты і жыхары Месапатаміі, Юдэі і Кападоцыі, Понта і Азіі, Фрыгіі і Памфіліі, Егіпта і частак Лівіі, сумежных з Кірэнай, ды прыезджыя рымляне, юдэі і празеліты, крыцяне і арабы, – мы чуем, што яны гавораць нашымі мовамі пра вялікія справы Божыя»" (Дз 2, 7–9).*

*Сёння праблема еднасці паміж народамі ды ўменне людзей дамаўляцца паміж сабой як ніколі актуальная. Ствараюцца міжнародныя арганізацыі, праводзяцца форумы, нарады, сімпозіумы прадстаўнікоў розных дзяржаў. Аднак мы бачым, што народам і дзяржавам цяжка дасягнуць узаемаразумення. Чаму? Адказ таксама можна знайсці ў кандаку на свята Зыходу Святога Духа. Гэты спеў гаворыць, што народы і іх мовы падзяліў Бог. Адбылося гэта пасля таго, як людзі самі захацелі дасягнуць неба і пачалі будаваць Вавілонскую вежу. Але Бог таксама паказаў і шлях пераадолення падзелу.*

*Крыніца падзелаў – імкненне чалавека самому вызначаць межы дабра і зла, крыніца ж еднасці – пакора перад Богам і адкрытасць на дзеянне Святога Духа. І нават калі чалавек не называе сябе хрысціянінам, але ў сваіх учынках кіруецца Божай праўдай, Святы Дух дзейнічае ў ім. Нам жа, хрысціянам, асабліва трэба дбаць пра тое, каб жыць у ласцы Божага Духа ды станавіцца па-над падзеламі – нацыянальнымі, сацыяльнымі, палітычнымі.*

## АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

### ЯГО ЭКСЦЭЛЕНЦЫІ КСЯНДЗУ БІСКУПУ АЛЯКСАНДРУ КАШКЕВІЧУ

*з нагоды 31-ай гадавіны біскупскага пасвячэння перасылаем сардэчныя пажаданні доўгіх гадоў жыцця ў добрым здароўі, шчасця, цярплівасці ў пастырскай паслузе і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай Бог заўсёды Вас блаславіць, а Маці Божая мае ў сваёй апецы.*

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

### ЯГО ЭКСЦЭЛЕНЦЫІ КСЯНДЗУ БІСКУПУ АЛЯКСАНДРУ КАШКЕВІЧУ

*складаем шчырыя словы падзякі за дапамогу і добрае вырашэнне спраў у нашых просьбах. Няхай усемагутны Бог узнагародзіць Вас шматкротна, а Ваша сэрца б'ецца ва ўнісон са справядлівасцю. Жадаем здароўя і доўгіх гадоў жыцця, Божай дапамогі і апекі ў душпастырскай паслузе. Нізкі Вам паклон!*

*Вернікі касцёла свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ЮРЫЮ КУЗЬМІЧУ

*з нагоды 18-ай гадавіны святарскага пасвячэння сардэчна жадаем, каб Бог блаславіў Вас на кожны дзень служэння, адорваў сілай, цярплівасцю, вытрымкай і адвагай. Няхай ніколі не згасне Ваша руплівасць на ніве Пана, палымянасць у малітве, цеплыня і любоў, якімі Вы дзеліцеся з намі. Жадаем мноства радасных хвілін і пазітыўнага настрою. Дзякуем за добрыя словы, уважлівасць і чуласць.*

*Касцёльны камітэт і вернікі парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Новым Двары*

### ПАВАЖАНАМУ АЙЦУ ЭДУАРДУ ПЯЦЕЛЬЧЫЦУ

*з нагоды 10-ай гадавіны святарскага пасвячэння перасылаем букет найлепшых пажаданняў: шчодрых Божых ласкаў, апекі Маці Божай і святога заступніка, радасці, душэўнага супакою, добразычлівых людзей побач і стойкасці на дарозе Хрыстовага святарства.*

*Удзячныя вернікі парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ КАНОНІКУ ЯНУ РЭЙШАЛЮ

*з нагоды 30-ай гадавіны святарскага пасвячэння перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Бог адорвае Вас здароўем, мудрасцю і ўсімі сваімі ласкамі, а таксама блаславіць Ваш святарскі шлях. Святы Дух няхай будзе бясконца шчодрым на свае дары, а Маці Божая нястомна апекуецца Вамі.*

*Вернікі в. Скярсі і Вялікае Сяло*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ДЗМІТРЫЮ УРБАНОВІЧУ

*з нагоды дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні: здароўя, шчасця, стойкасці ў душпастырскай паслузе, апекі Маці Божай, дароў Святога Духа і шмат цудоўных хвілін на святарскім шляху. Няхай Святы Дух пранікне ў глыбіню Вашага сэрца і прынясе радасць і супакой.*

*Вернікі парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Ішчолне*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ПАЎЛУ СКУБУ

*з нагоды 6-ай гадавіны святарскага пасвячэння шчыра дзякуем за тое, што Вы нясеце нам радасць Евангелля. Мы ўдзячны Богу, Вашай сям'і і ўсім, хто стаяў ля вытокаў выбару Вашага жыццёвага шляху, за тое, што маем такога святара. Няхай міласэрны Пан адорыць Вас моцным здароўем і бясконцым натхненнем, святло Хрыста няхай ачышчае святарскі шлях, а Маці Божая вядзе найлепшай сцежкай да святасці і прытуляе да свайго мацярынскага сэрца.*

*З малітвай і павагай рух "Маці ў малітве" і парафіяне з Раготна*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ВЯЧАСЛАВУ МАТУКЕВІЧУ

*з нагоды 15-ай гадавіны святарскага пасвячэння перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Езус Хрыстус блаславіць кожны Ваш дзень, Маці Божая заўсёды чувае над Вамі і будзе заступніцай ды дапаможніцай у кожную хвіліну жыцця, а Святы Дух дапамагае выконваць душпастырскую паслугу. Мы вельмі ўдзячныя Вашым бацькам за тое, што выхавалі такога сына святара.*

*Касцёльны камітэт і вернікі парафіі Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі ў в. Дуды*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ПАЎЛУ УРБАНУ

*з нагоды дня нараджэння сардэчна жадаем патрэбных Божых ласкаў і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай Ваш Анёл-ахоўнік заўсёды чувае над Вамі, а Маці Божая ахінае сваім мацярынскім плашчом. Жадаем таксама моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, душэўнага супакою, аптымізму, моцнай непахіснай веры і надзеі.*

*Касцёльны камітэт і вернікі парафіі Маці Божай Нястомнай Дапамогі ў Парэччы*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ КАНОНІКУ ЗДЗІСЛАВУ ВЭДЭРУ

*з нагоды 60-ай гадавіны святарскага пасвячэння перасылаю сардэчныя пажаданні: сіл, здароўя, поспехаў, каб Вас заўсёды акружалі прамяні Божай міласэрнасці і апека Найсвяцейшай Панны Марыі. Няхай Езус Хрыстус і Святы Дух заўсёды валадараць у Вашым сэрцы.*

*Дарагі наш Ксёндз Здзіславе,*
*Ад душы мы Вас віншуем!*
*Бачыць Вас заўжды жадаем,*
*Шчырым сэрцам усцяж мілуем!*
*Хай Ваш прыклад шлях укажа –*
*Па слядах мы верна пойдзем.*
*І мы рады неабсяжна,*
*Што наш Ксёндз заўсёды побач!*

*Са шчырай малітвай Аліцыя Воранава са Смаргоні*

### ПАВАЖАНЫМ КСЯНДЗАМ ПАЎЛУ КАЛЕСНІКУ, ЯНУ ГАВЕЦКАМУ, ВІТАЛІЮ ЦЫБУЛЬСКАМУ І АРТУРУ ВАЛЧКЕВІЧУ

*з нагоды чарговай гадавіны святарскага пасвячэння жадаем моцнага здароўя, сілы, мудрасці і цярплівасці на святарскім шляху, заўсёды жыць з малітвай, несці свет Божай любові ўсім людзям. Няхай міласэрны Езус прытуліць Вас да свайго Найсвяцейшага Сэрца, Святы Дух няспынна спасылае свае дары, а Найсвяцейшая Панна Марыя ахінае любоўю і апекай.*

*Легіён Марыі і апостальства "Маргарытка" касцёла свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ РУСЛАНУ МАЗАНУ

*з нагоды 12-ай гадавіны святарскага пасвячэння жадаем Божага блаславення на кожны дзень, шмат радасці, шчасця і здароўя, нязгаснага запалу і плённай паслугі на ніве Пана, здзяйснення ўсіх планаў і намераў. Няхай Езус Хрыстус будзе для Цябе прыкладам на святарскім шляху, Найсвяцейшая Маці атуляе бязмежнай любоўю, а Святы Дух спасылае на Цябе свае шчодрыя дары.*

*Сябры*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ТАДЭВУШУ КРЫШТОПІКУ

*з нагоды 35-ай гадавіны святарскага пасвячэння складаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, шчодрых Божых ласкаў на кожны дзень, дароў Святога Духа і нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці. Няхай добры Бог заўсёды дапамагае Вам у абвяшчэнні Божага слова і пашырэнні Нябеснага Валадарства на зямлі.*

*З памяццю ў малітве вернікі парафіі св. Юзафа ў Гродне*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ КАНОНІКУ ЯНУ РЭЙШАЛЮ

*з нагоды 30-ай гадавіны святарскага пасвячэння і надыходзячага дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, нязгаснага запалу ў абвяшчэнні Евангелля на зямлі, душэўнага супакою і штодзённай радасці. Няхай сам Бог ганарыцца плёнам Вашай працы, а Маці Божая няхай нястомна Вамі апекуецца і суправаджае на дарозе жыцця. Мы будзем маліцца да вечнага Бога аб шчасці і здароўі для Вас!*

*З малітвай і павагай вернікі з в. Моцевічы*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ АЛЯКСАНДРУ ШЭМЕТУ

*з нагоды 35-ай гадавіны святарскага пасвячэння перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, душэўнага супакою, здзяйснення ўсіх мар і намераў, стойкасці, моцы, добрых людзей побач, нязгаснага запалу ў паслузе і Божага блаславення на кожны дзень жыцця.*

*Вернікі парафій Гродна-Аўгустовак і Адамавічы*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ЯНУ РАМАНОЎСКАМУ

*з нагоды 10-ай гадавіны святарскага пасвячэння перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай кожны Твой дзень будзе шчаслівы і блаславёны, побач будуць зычлівыя людзі, а Божыя ласкі няхай сыходзяць на Цябе няспынна. Чэрпай радасць з кожнай хвіліны, цешся сваёй паслугай і заўсёды ўсміхайся сабе і людзям навокал.*

*Бацькі і сястра з сям'ёй*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ КАНОНІКУ ЯНУ РЭЙШАЛЮ

*з нагоды 30-ай гадавіны святарскага пасвячэння і дня нараджэння складаем сардэчныя пажаданні.*

*Хай моманты шчасця нястомна множацца,*
*І кветкі цвітуць на Вашым шляху.*
*Заўсёды цешцеся апекай Божай*
*І любіце шчыра працу сваю.*
*Хай Божая Маці, што з алтара зорыць,*
*Шмат ласкаў удзеліць, здароўем адорыць,*
*Каб Ксёндз паважаны ўсю жыцця дарогу*
*Служыў на карысць людзям і на хвалу Богу.*
*Каб жыццё квітнела ярчэй майскіх садоў,*
*Жадаем Вам здароўя і традыцыйных 100 гадоў!*

*З малітвай парафіяне з капліцы Ліпічна*

***Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.***

## КАТАЛІЦКІЯ СМІ БЕЛАРУСІ




**інтэрнэт-партал Касцёла ў Беларусі**

На поўдні Бразіліі, у штаце Рыу-Грандзі-ду-Сул, была ўзведзена адна з найбольшых у свеце статуй Хрыста. Фігура Хрыста Абаронцы ў горадзе Энкантаду мае вышыню 43,5 метры, што на 5,5 метраў вышэй за славутую статую Хрыста ў Рыа-дэ-Жанэйра.

Аўтарамі скульптуры сталі бразільскія архітэктары Жэнэзіу Гомэш Мура і яго сын Маркаш Мура. Плануецца, што ўсе ўнутраныя працы на помніку будуць завершаны да 2023 года. На ім будзе размешчана аглядная пляцоўка ў акне, зробленым у выглядзе Сэрца Езуса.

На сёння самай вялікай статуяй Хрыста лічыцца Хрыстос Валадар у Свебодзіне (Польшча). Гэты помнік мае вышыню 36 метраў: 33 метры складае фігура Хрыста і яшчэ 3 метры – залатая карона на Яго галаве. Помнік узвышаецца на кургане вышынёй 16,5 метраў, і разам з гэтым п'едэсталам вышыня статуі дасягае рэкордных 52,5 метраў.




**газета Віцебскай дыяцэзіі**

Вікторыя Радзюкевіч з Беларусі праходзіць фармацыю ў сясцёр салезіянак у Рыме. Дзяўчына прызнаецца, што ніколі не мела жадання пайсці ў кляштар, але адказала Богу на тое, што ўбачыла праз малітву – знакі, штодзённасць, а таксама праз намер і жаданне сэрца сапраўды споўніць волю Айца. "Самы першы крок зрабіў да мяне Бог, калі даў вялікае жаданне маліцца адной малітваю пад назвай «Адданне сябе Богу», у якой гаварыла: «...Дай мне толькі Тваю любоў і ласку, і буду я дастаткова багатая і нічога больш шукаць не буду»", – дзеліцца Вікторыя.

У Італіі дзяўчына адзначае адмысловы спосаб гаварыць і выказвацца з жэстамі. Таксама заўважае больш радасці, прастаты і лёгкасці ў штодзённасці. Вікторыя жыве з чатырма іншымі аспіранткамі: трыма з Італіі і адной з Албаніі. Акрамя духоўных практык, яны разам падарожнічаюць, збіраюцца за настольнымі гульнямі.




**беларуская рэдакцыя**

Дапаможны сакратар Кангрэгацыі Веравучэння заклікаў усе каталіцкія дыяцэзіі свету да паслядоўнага ўкаранення правіл, рэкамендаваных Папам у 2019 годзе і накіраваных супраць сексуальных злоўжыванняў.

"Стварэнне адпаведнай структуры для гэтых спраў у кожнай дыяцэзіі з'яўляецца абавязкам, які не абмяркоўваецца і павінен быць споўнены. Гэта не залежыць ад асабістага жадання асобных біскупаў", – падкрэсліў арцыбіскуп Чарльз Шыклуна.

На сёння няма інфармацыі аб дакладнай колькасці інстанцый, у якія можна паведаміць пра сексуальнае выкарыстанне непаўналетніх духоўнымі асобамі, аднак вядома, што гэтае папскае патрабаванне ўжо ажыццявілі ў многіх дыяцэзіях свету. Як падкрэсліў арцыбіскуп Шыклуна, на паскарэнне рэалізацыі згаданага папскага закліку павінны паўплываць Апостальскія нунцыятуры.




**інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі**

Брат Сяргей Калюта, які паходзіць з ваўкавыскай парафіі св. Вацлава, прыняў пасвячэнне ў ступені дыяканату сярод 9-ці іншых паўлінаў-семінарыстаў.

Дыякан нарадзіўся ў 1997 годзе у Ваўкавыску. Там жа ў касцёле св. Вацлава ў 2008 годзе прыняў І св. Камунію. Фармацыю да святарства пачаў у 2015 годзе ў ВДС у Гродне. У 2016 годзе быў прыняты ў Ордэн паўлінаў. На заканчэнне навіцыяту 8 верасня 2017 года прынёс першыя часовыя манаскія абяцанні. Вучыцца ў Вышэйшай духоўнай семінарыі айцоў паўлінаў у Кракаве. 25 сакавіка гэтага года, ва ўрачыстасць Звеставання Пана, на Яснай Гары ў Чэнстахове (Польшча) прынёс вечныя манаскія абяцанні на выключнае Божае служэнне ў Ордэне св. Паўла, Першага пустэльніка.

**Актуальныя навіны, фота, відэа. Даведайся больш пра жыццё Каталіцкага Касцёла на Гродзеншчыне!**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч;**
заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** тэл. **(80152) 61-05-37; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ААТ "Брэсцкая друкарня",** 224013 Брэст, прасп. Машэрава, 75; тыраж 4700; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты.
Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная.